НАВІНЫ

## МАЗ-МАН з расійскім прычэпам

**Замежнае прадпрыемства “МАЗ-МАН Трак Трэйдынг” — эксклюзіўны прадстаўнік завода МАЗ-МАН па збыце аўтатэхнікі, арганізацыі дылерскай сеткі і станцый тэхабслугоўвання — возьме ўдзел у спецыялізаванай аўтамабільнай выставе “БАМАП 2001", якая праходзіць у Мінску з 23 па 25 мая.**

Прадпрыемства плануе ўдзельнічаць у гэтай выставе са сваім расійскім партнёрам — фірмай-вытворцам прычэпнай тэхнікі ЗАТ “НОВТРАК” з Вялікага Ноўгарада (Расійская Федэрацыя). Партнёры прадэманструюць у счэпе з седлавым цягачом МАЗ-МАН 543268 трохвосны тэнтавы паўпрычэп з бартавой платформай вытворчасці прадпрыемства “НОВТРАК”. Паводле слоў спецыялістаў, сумесная дэманстрацыя гэтага аўтацягніка на выставе “БАМАП 2001" павінна азнаменаваць пачатак супрацоўніцтва двух вядучых вытворцаў грузавой тэхнікі — беларускага і расійскага.

## Бытавыя паслугі ў сельскай мясцовасці

**Беларускае дзяржаўнае аб’яднанне арганізацый бытавога абслугоўвання насельніцтва (ДА “Белбыт”) атрымае бюджэтную пазыку ў памеры 1,5 мільярда рублёў для пашырэння наменклатуры і нарошчвання аб’ёму бытавых паслуг, аказваемых насельніцтву ў сельскай мясцовасці.**

Як вынікае з пастановы ўрада, грошы выдзяляюцца за кошт сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце на бюджэтныя пазыкі, дэпазіты, паявыя ўзносы, з вяртаннем гэтай пазыкі да 28 снежня 2003 года штомесяц роўнымі долямі пачынаючы са студзеня 2003 года.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Свята беларускай пісьменнасці ў Мсціславе

**Пастановай урада створаны нацыянальны аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні 2 верасня Дня беларускай пісьменнасці ў Мсціславе (Магілёўская вобласць).**

У аргкамітэт, які ўзначаліў намеснік прэм’ер-міністра Міхаіл Дзямчук, увайшлі старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны, старшыня Магілёўскага аблвыканкама Барыс Батура, выконваючая абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, а таксама кіраўнікі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў.

Як паведаміла БелаПАН начальнік інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення Дзяржкамдруку Лілія Ананіч, свята будзе адзначацца ў восьмы раз, а ўпершыню яно праводзілася ў 1994 годзе ў Полацку (Віцебская вобласць). Па традыцыі, цэнтрам урачыстасцей кожны год становіцца адзін з невялікіх беларускіх гарадоў, які адыграў важную ролю ў нацыянальнай гісторыі і культуры.

**Марат ГАРАВЫ.**

# 2. ЛІЦЭНЗІЯ НА ПРЫГОННАЕ ПРАВА

## Ці верыце вы, што калгасы і саўгасы накормяць народ?

**Зямля — і карміліца наша, і губіцелька наша. На ёй, — сцвярджаюць людзі, якія ведаюць як там і што, — дужа не разжывешся. Хоць у зямлі і тры гаспадары — прырода, мужык і ўлада, але яна любіць толькі першых двух. Уладу і на дух не пераносіць. Ні ранейшую, ні цяперашнюю. Чаму? А таму, што няма за што.**

**Васіль ГРОДНІКАЎ**

### Загадка прэзідэнта

Я адшукаў у сваёй пошце нядаўняе пісьмо старшыні калгаса, якое ён даслаў мне пасля візіту ў мае вясковыя “апартаменты”. Дам і вам пачытаць некаторыя радкі з яго.

“Я працую старшынёй калгаса звыш дваццаці год. Пагадзіцеся: сельскую гаспадарку, яе праблемы, плюсы і мінусы ведаю не навобмацак. І як бы я ні стараўся з калгаснымі спецыялістамі прадпрыняць нейкія кардынальныя меры па ўздыме нашай гаспадаркі, але ўсе мы, як ваўкі, абвешаны "чырвонымі сцяжкамі" калгасна-саўгаснай сістэмы сацыялістычна-камандная гаспадарання. Думаю, няма карысці яшчэ раз лемантаваць пра тое, ад чаго сёння вочы на лоб лезуць: аднолькавыя для ўсіх і неадэкватныя закупачныя цэны, грабіцельская палітыка дзяржавы ў адносінах да калгасаў, саўгасаў і калгаснікаў, усеагульнае і павальнае п’янства, крадзеж калгаснай, дзяржаўнай і прыватнай уласнасці, нізкія бытавая, сацыяльная, вытворчая і тэхналагічная дысцыпліна і культура. Гэтыя з’явы ўсім вядомыя. Прэзідэнт і ўрад ведаюць пра гэта таксама. Але, яны маўчаць. Пэўне, ад таго, што не ведаюць, як выйсці з такога становішча. Не знайшлі нічога лепшага, як падтрымліваць узбуджальнік хваробы — маральна і матэрыяльна дапамагаць безнадзейным калгасам і саўгасам. Часам, калі ўжо няма сіл трываць, хочацца на ўвесь голас крыкнуць: няўжо вы не бачыце, што мы заблудзіліся з гэтай калгасна-саўгаснай сістэмай і пры дапамозе пыхлівых усязнаек зайшлі ў непраходныя балоты. Але, хто вышэй — глухія, ніжэй — сляпыя...

Я сёлета перад справаздачна-выбарчым сходам нахадзіўся па кабінетах раённай “вертыкалі” з просьбай не вылучаць маю кандыдатуру на пасаду старшыні калгаса, бо абрыдла ўсё, у гаспадаркі пры такой палітыцы няма перспектывы, не відаць святла ў канцы гэтага савецка-рынкавага тунэлю. І, нарэшце, няма ўжо сіл і нахабства хлусіць сваім калгаснікам, што толькі калгасы і саўгасы выратуюць краіну ад голаду. Як у той песні: “Я ему и так и этак, со словами и без слов”, а мяне і слухаць ніхто не хоча. Кажуць, калі і старшыні калгасаў пачнуць уцякаць, то што ж тады будзе? Калі я стаў заікацца пра тое, што я думаю пра калгасна-саўгасную сістэму, што і як варта было б зрабіць, то цыкалі на мяне і адначасова прыстаўлялі палец да вуснаў і вачыма паказвалі наверх...

А такіх, як я, шмат. Адны ўжо праўдамі-няпраўдамі збеглі з калгасаў, іншыя — наважваюцца...

Але ж мяне зноў абралі старшынёй. А што калгаснікам? Ім трошкі паківалі пальцам, трошкі намякнулі на палітыку прэзідэнта... Сяляне бачаць, што ўсё навокал развальваецца. Ёсць у іх старшыня ці не — ім “да лямпачкі”. Маўляў, няхай сабе і будзе, бо нікаму ж трэба вартаваць тое, што яшчэ не ўкралі і не прапілі. Спадзяюцца, аднак, што калгас не закрыюць, дзяржава нікуды не дзенецца — дапаможа, а значыць, можна будзе і надалей дзе ўкрасці, а можа, яшчэ і капейчыну якую на зарплату дадуць. Яно так: прыбяры пянька — стане за панка...".

Вось такая шчырая споведзь чалавека, які лепш за любога “вертыкальшчыка”, вучонага-аграрніка, журналіста-аналітыка ведае дакладна, што там да чаго.

Лінія прэзідэнта, калі яго глядзіш па тэлевізары або слухаеш па радыё ці чытаеш, ну такая складная, прывабная, гладкая і салодкая, як патака... для радавых калгаснікаў. А ў бывалых і вопытных кіраўнікоў вытворчасці стваравецца ўражанне, што ён сам ніколі не кіраваў гаспадаркай, не таптаў гразь на вясковых вуліцах, не нюхаў смярдзючага водару кароўнікаў і свінарнікаў, не ламаў галаву над тым, што даць на зарплату калгаснікам, не сядзеў на прызбе з вяскоўцамі і не гаварыў з імі так, як бывае, — душа з душою гамоніць. А тая прэзідэнцкая патака для іх гарчэй за асінавую кару. Пэўне, піша прэзідэнту тыя “байкі” адзін з палкоўнікаў — былы пагранічнік, на заставе якога была дапаможная гаспадарка: адзіндва парсюкі, з дзясятак трусянят і, як рэдкі выпадак, кароўка па мянушцы Маня. А сам да зялёнага моху аброс пераканаманнямі аб перавазе калгаснага ладу над дробнаўласніцкімі інтарэсамі. Яно так: сляпой курыцы і жарства — пшаніца.

Мэта ў прэзідэнта сёння адна — узняць ляжачыя на баку калгасы і саўгасы бальшавіцкага ўзору. Во як: абы месяц свяціў, а зоркі, як хочуць... Што гэта? Няведанне сапраўднага становішча ў сельскай гаспадарцы ці, як кажуць, чалавека “заклініла”? Ці ведае ён, што з гэтага можа атрымацца? Ці прадбачыць сітуацыю праз колькі год? Не думаю, каб прэзідэнт не ведаў, што творыць. Ведае! Толькі для мяне застаецца загадкай: чаму ён як кіраўнік дзяржавы, ведаючы, што выбраны ім курс, па якім ён вядзе людзей краіны, — да яшчэ большай разрухі, а хвароба вёскі заганяецца ў глыбіню, метастазы гэтага захворвання могуць паралізаваць астатнія галіны эканомікі, — гэтак прыспешвае рух па памылковым курсе? Няўжо па прынцыпе: кабыла здыхае, а траву хапае? Але бачыш ты: гадка есці і шкада кінуць... Разумныя людзі добра ўсведамляюць, што выбраная прэзідэнтам дарога вядзе назад, да яшчэ большага жабрацтва і на вёсцы, і ў горадзе. Толькі калі ён сыдзе, адказваць трэба будзе ўсім нам, губляючы час і вялікія сродкі, каб знайсці разумны шлях да росквіту і дабрабыту. Але на той час ці будзе з кім ісці па тым шляху? Ці не знікне да тае пары селянін на вёсцы? Мруць жа, як мухі...

Не магу абысці бокам той факт, калі славуты старшыня калгаса “Рассвет” Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў сказаў на ўсю краіну надзвычай справядлівыя і правільныя словы: “Няма ў калгасе такой сілы, якая прымусіла б селяніна добрасумленна працаваць”. Я часта думаю над гэтымі словамі: гэта ж не тое, што ў шмат якіх бедных і галазадых гаспадарках, дзе немагчыма хоць бы штосьці наскрэбці нават на зарплату калгаснікам, а ў гаспадарцы буйной, высокарэнтабельнай, з прамысловымі перапрацоўчымі прадпрыемствамі, з магазінамі, гасцініцай, рэстаранам, барам, Палацам культуры, Домам адпачынку і санаторыем, ФАПам і кавалачкам чарнаморскага ўзбярэжжа, якія знаходзіліся на балансе калгаса.

Шмат хто яшчэ і да сённяшняга дня думае: зарплата вызначае ахвоту калгасніка да працы. А, бачыш ты, на старасці год, на вяршыні свайго старшынёўскага вопыту карыфей сельскагаспадарчай вытворчасці прыйшоў менавіта да такой думкі. Не прыслухаліся да такой высновы ні прэзідэнт, для якога В.Старавойтаў быў калісьці недасягальнай вяршыняй здольнасці думаць, арганізоўваць і ствараць, ні ўрад, прызначаны толькі для таго, каб выконваць распараджэнні А.Лукашэнкі.

Замест таго каб задумацца над высновай вясковага “аксакала”, не знайшлі больш нічога разумнейшага, як пасадзіць яго за краты. Во ўжо радасці і ў прэзідэнта, і ў супрацоўнікаў Дзяржкантролю! Аж да Страшнага суда! Але ж, думаю, праўду-матку не пасадзіш за краты. Гэта не падуладна нават аўтарытарнаму лукашэнкаўскаму рэжыму, які, баючыся “прыблізіць свой палітычны крах і прыкрываючыся інтарэсамі людзей і клопатамі пра іх” (словы А.Лукашэнкі), стварае штучную атмасферу “беларускага эканамічнага цуду”.

Напалохала думка В.Старавойтава прэзідэнта і ўсю чынавенскую раць, таму што прымушала начальства, якое намазоліла свае азадкі на сядзеннях іншамарак, моцна паламаць галаву над тым, як, скарыстаўшыся ў тым ліку і вопытам В.Старавойтава, зрабіць так, каб хоць паціху пачаць выводзіць вёску з “забалочаных мясцін”. Выходзіла, напэўна, па ўсім: трэба ламаць сістэму. Праўда, ламаць — не будаваць. Бальшавікі гэтаму добра навучыліся. Але ўсё ж адольваў страх: што ж канкрэтна прапанаваць новага і талковага? Адчулі, што не ў стане. І амаль усе адкормленыя на калгасных броварах “бычкі” пацягнулі ў старую каляіну: да асновы парушыць, а затым... Пад “затым” маецца на ўвазе безліч далейшых эксперыментаў. Над людзьмі, над вёскай, над зямлёй. Метадам “тыка”, метадам “на авось”. Трэба мець яшчэ на ўвазе, што палітыку, у тым ліку і сельскагаспадарчую, у нас заўсёды выпрацоўвалі не спецыялісты-прафесіяналы, а рэвалюцыянеры і пралетарыі, парабкі-камунары і актывісты з шэрагу “пьяных и убогих”, што духам і целам не здольны на самастойны прадуманы праект і асабістую адказнасць.

### Эксплуатацыя і эксплуататары

Калгасна-саўгасная сістэма пабудавана на прынцыпах самай жорсткай эксплуатацыі сялян. Гэта ўладай выдаецца як навядзенне працоўнай дысцыпліны ў працоўных калектывах. І чым больш жорсткая эксплуатацыя на калгаснай працы (а ў нас ледзь не ўсе працэсы і ў паляводстве, і на фермах, і ў іншых сферах — ручная праца), тым больш станоўчыя вынікі дзейнасці калгасаў і саўгасаў. Ганарыцца такімі вынікамі — значыць ухваляць рабства. Бо сёння праца ў вёсцы хутчэй нагадвае працу раба ў сярэднявечча, чым стваральную працу ў пачатку XXI стагоддзя...

Шмат якія калгасы і саўгасы, калі не ўсе, жорстка эксплуатуюць і саму зямлю. Большасць палёў не ведаюць, што такое арганічныя ўгнаенні. Зямля задыхаецца ад мінеральных тукаў, хімікатаў. Паўсюдна парушаюцца севазвароты. Зямля не ведае адпачынку. Зямля выдыхаецца, становіцца бясплоднай. Ёй тэрмінова патрэбен разумны і дбайны гаспадар. З галавой і рукамі, а не толькі з языком і дырэктывамі. Ніякія селектарныя нарады ўжо не дапамогуць зямлі. На зямлі бесталкова робяць толькі тыя, для каго яна — агульнанароднае багацце, а па-вясковаму — тваё—маё—калгаснае. Толькі ў дбайнага гаспадара і толькі ў яго прыватнай уласнасці зямля ахвотна падзеліцца сваім багаццем.

Наша наменклатура ўмее толькі валадарыць і камандаваць. Вось чаму ў Беларусі такія дарагія хлеб, малако, мяса, макароны, цукар, крупы... Але ж зямля чакае не ўладара, а гаспадара! Чаму не ідуць рэформы? На маё меркаванне, ад таго, што рэформы могуць пацягнуць за сабой разняволенне сялян, а значыць, страту ўплыву на адну трэць сельскага насельніцтва. А сёння так: да высокіх урадкаяў, да важкіх прывагаў, за вялікім малаком — ша-а-агам марш! Дзяржава кляшнямі ўчапілася ў ліцэнзію на прыгоннае права ў вёсцы. І яшчэ. Улада баіцца думаць, прадугледжваць, аналізаваць, пераймаць лепшае і прагрэсіўнае. Баіцца таму, што ад нараджэння мае дрэнную, настоеную на гегемоніі пралетарыяту генетыку. З такой уладай мы сапраўды не будзем сытна есці і дзяцей сваіх не накормім...

Просіцца ў радок выснова: што добра для людзей, тое небяспечна для ўлады. Ад сталыпінскай рэформы і НЭПу праз павальную калектывізацыю, доўгатэрміновае і безвыніковае рашэнне Харчовай праграмы, талонную і карткавую сістэмы прыйшлі мы нарэшце да праблемы вырашэння харчовай бяспекі краіны. Гэта ўжо называецца “прыехалі!”. Выходзіць, калгасна-саўгасная сістэма пагражае Беларусі голадам?! І мы замест таго, каб ліквідаваць такую пагрозу, стымулюем яе доўгае жыццё?! Ну, што ж, няхай тады жывуць калгасы і саўгасы як надзейная апора дзяржавы ў барацьбе з голадам і разрухай! Наперад, чырвоныя камісары! Вось вам кабура з маўзерам, лента з патронамі праз плячо, флаг — у руکі і, ша-а-агам марш! на бязроднае калгаснае поле! Высокіх вам намалотаў, кармавых адзінак і рэкордных надояў! Няхай дапаможа вам дзяржаўная ліцэнзія на прыгоннае права ў вёсках!

Яны, гэтыя чырвоныя камісары, можа і пракормяць сябе самі, а хто накорміць дзесяць мільёнаў беларусаў? Можа, Польшча, Літва, Латвія або саюзная Расія, дзе сяляне працуюць на зямлі па іншых дзяржаўных ліцэнзіях?..

*в.Мазалі Маладзечанскага раёна.*

Артисты массовки в форме солдат немецкой армии периода второй мировой войны отдыхают в перерыве между съемками фильма “Бабий Яр” о событиях в Киеве, г. Минск, май 2001 г.

**Фото IREX/ProMedia.**

## ...А суд истории свершится

Смотрел как-то по ОРТ передачу “Процесс”. Там рассуждали, кого считать убийцей. Речь шла в основном о военных действиях в Чечне. Один из участников этих действий рассказывал, как он с группой шел в разведку, и когда на пути им встречался чеченец, — скажем, пастух или случайный прохожий — они их не задумываясь уничтожали. Мол, чтобы те не могли сообщить о них “бандитам”. Вокруг этого и шел спор — убийцы российские военные или нет?

Но то война, и рассуждать здесь можно по-разному. А вот в тот же день по Белорусскому телевидению показали кинокартину “Эксгумация ненависти. Куропаты: точка зрения”, так не могу успокоиться до сих пор. Там утверждалось (особенно усердствовала в этом одна дама), будто правда о Куропатах такова: там в октябре—ноябре 1941 года немцы расстреливали гамбургских евреев и наших мирных жителей. Как будто не известны документальные неопровержимые свидетельства, что в Куропатах в 1937—1941 годах НКВД расстреляло своих же сограждан. Непонятно, для чего нужно обелять гнусных убийц, коим нет прощения, творивших страшные кровавые дела в своей стране в мирное время? Кому это выгодно? Только духовным наследникам того террора, который был развязан сталинским режимом против собственного народа.

Я поднял подшивку вырезок из разных газет. В газете “На страже Октября” за 10 декабря 1989 года нашел интервью тогдашнего генпрокурора БССР Тарнавского. Он сообщал: было допрошено 22 сотрудника НКВД, которые участвовали в расстрелах в Куропатах. Кроме того, было отыскано более двухсот свидетелей, которые знали о тех злодеяниях в Куропатах... В “Советской Белоруссии” за 22 января 1989 года было опубликовано Постановление Совета министров БССР “Об увековечении памяти жертв массовых репрессий 1937—1941 годов в лесном массиве Куропаты”.

Но кому-то все неймется, так и чешутся руки переписать историю. Сколько можно кощунственно плясать на костях невинно убиенных? Пусть даже то были гамбургские евреи или наши мирные жители. Так поставьте памятник жертвам геноцида! Впрочем, он давно бы стоял, если бы это было так. А вот репрессированные в годы сталинщины сегодняшним белорусским режимом, выходит, до сих пор не реабилитированы. Но рано или поздно высший суд свершится, и жертвы будут названы жертвами, а палачи — палачами. Окончательно и бесповоротно.

**Григорий ЛЕСУН,**
**инвалид Великой Отечественной войны, ушедший на фронт в 17 лет.**

**г.Березино.**

РЭХА

# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

*Шырокі рэзананс выклікалі артыкулы Івана Макаловіча, змешчаныя пад такім загалоўкам у нашай газеце 10—17 красавіка г.г. У іх адзначалася, што цяпер перад намі, беларусамі, з усёй вастрынёй паўстала гамлетаўскае пытанне: “Быць ці не быць?”. Каб выратаваць Беларусь, на думку аўтара, неабходна аб’яднаць усе здаровыя сілы грамадства на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах і прывесці да ўлады разумнага, талковага чалавека.*

*Выступленне газеты закранула сэрцы і думы многіх людзей. У шматлікіх пісьмах і званках чытачы выказваюць свае прапановы і меркаванні наконт узнятай праблемы. Ніжэй друкуюцца фрагменты з такіх допісаў.*

## Перед нами действительно гамлетовский вопрос

Перед нами стоит поистине гамлетовский вопрос: быть или не быть? Он касается всех, в том числе и представителей всех ветвей власти. Им бы пора понять, что нечестная победа Лукашенко (а он уже заявляет, что признание или непризнание итогов выборов международным сообществом не имеет особого значения), так вот, их непризнание станет тяжелым поражением для чиновничества. Оно поголовно станет невыездным, страна окажется в полной изоляции, что приведет к национальной катастрофе.

С большими трудностями придется столкнуться и российской дипломатии. В России это понимают. Поэтому занимать нейтральную позицию в президентских выборах, не вмешиваясь во внутренние дела союзника, думаю, они не смогут.

Из Москвы уже прозвучал очевидный сигнал. Он — в выступлениях Путина, особенно в его послании Федеральному собранию в конце марта. В нем изложена добротная либеральная концепция переустройства современной России. Нетрудно заметить, что путинская программа диаметрально противоположна лукашенковской. В этом и заключен сигнал из Москвы белорусской оппозиции. Ведь если в Беларуси будет осуществляться лукашенковская программа, то всякие разглагольствования об интеграции и объединении ими и останутся.

Ясно, что Москве нужна такая же либеральная программа переустройства и Беларуси. Поэтому Лукашенко она поддержит лишь в одном случае — если объединенная белорусская оппозиция не даст ясного и недвусмысленного сигнала Путину: да, мы белорусские демократы, тоже избираем либеральную программу переустройства своей страны и понимаем, что только она выведет Беларусь из кризиса, поможет интеграции двух стран прорубить нам окно в Европу.

К сожалению, наша оппозиция никак не может договориться по “пустяковому” вопросу — о едином кандидате. Хотя следовало бы впереди телеги поставить все-таки лошадь, то есть выработать вначале общую политико-экономическую платформу. Ведь понятно, что лишь после того, как в руках оппозиции появится общая программа, родственная по духу путинско-грефовской, лишь тогда можно будет приступить к “техническому вопросу” — “о найме” сроком на пять лет “специалиста”-президента, который способен осуществить заявленную программу.

**Леонид НИКОЛАЕВ,**
**исследователь.**

**Минск.**

**Фота IREX/ProMedia.**

## Кага падтрымае правінцыя

Беларусь у чарговы раз у сваёй гісторыі стаіць перад выбарам: быць самастойнай дзяржавай ці стаць паўночна-заходнім краем Расіі? Гэта стане зразумела пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Каго выбіраць? Каго нам прапаноўваюць? На старонках некаторых газет ужо мільгаюць прозвішчы будучых прэтэндэнтаў. Апазіцыйныя партыі і рухі ў апошні час нібыта змаглі кансалідавацца. Але прыняцце канкрэтных рашэнняў зацягваецца.

Правінцыя пакуль моўчкі назірае, разважае так: “Гэты пры ўладзе ўжо быў, той хоча абагаціцца... Наогул, каго ні выбірай, нічога не зменіцца, таму няхай застаецца цяперашні, які хоць своечасова дае пенсію”.

Мы, беларусы, у параўнанні з заходнееўрапейцамі, робім першыя нясмелыя крокі да свабоды і дэмакратыі і адначасова яе баімся. Баімся таму, што не выкарысталі шанц у дзевяностых гадах стаць парламенцкай рэспублікай, а ўсё ўсклалі на аднаго чалавека ў асобе прэзідэнта, далі яму звышвысокія паўнамоцтвы і памыліліся. Замест эканамічнага пад’ёму — спад. Кіраўніцтва краіны падае ў ногі Расіі, просіцца ў новы саюз, бо замест рэформ і разняволення духу корміць народ гучнымі прамовамі, абяцанкамі, заклікамі і пагрозамі.

Ні правячыя лідэры краіны, ні апазіцыйныя палітычныя партыі пакуль не могуць аб’яднаць вакол сябе грамадства. Мы забываем пра тое, што Беларусі ў адрозненне ад суседзяў па былым сацыялістычным лагеры трэба вырашаць адразу дзве задачы — пабудова рыначнай эканомікі і нацыянальнае абуджэнне грамадства. Падчас абмеркавання кандыдатур апазіцыйны рух чамусьці да ўвагі бярэ толькі першую задачу. А гэта небяспечна. Невыпадкова Зянон Пазняк, прагнозы якога, як правіла, пацвярджаюцца, папярэджвае, што сённяшнія прэтэндэнты на прэзідэнцкі пост могуць здаць Беларусь Расіі хутчэй, чым А.Лукашэнка.

Няўжо на Бацькаўшчыне няма людзей, якім пад сілу вырашэнне адразу дзвюх задач? Ёсць. Нам патрэбен кандыдат ад нацыі. Лухта, калі хто мяркуе, што няма лідэраў нацыі. Сярод іх я найперш бачу Ніла Гілевіча. Ён з тых, хто сапраўды з’яўляецца чалавекам з вялікай літары і можа аб’яднаць грамадства, усяліць веру, згуртаваць вакол сябе нацыянальную высокаадукаваную каманду будучых кіраўнікоў дзяржавы, стварыць працаздольны перадвыбарчы штаб.

Менавіта такіх людзей найхутчэй, без асаблівых матэрыяльных рэсурсаў падтрымае правінцыя, якая з’яўляецца апалітычнай, але ўсё ж адрознівае дэмакрата ад псеўдадэмакрата.

**Аляксей ГАНЧУК.**

**г.Жабінка.**

## Перамажа той, хто...

З маючымі адбыцца ў гэтым годзе прэзідэнцкімі выбарамі звязаны нашы надзеі на лепшае. Але для гэтага патрэбны перамога кандыдата ад народа над усім вядомым кандыдатам ад улады.

Перамогу ж на выбарах можа атрымаць той чалавек, які найбольш проста і пераканаўча адкажа на найбольш важныя пытанні, якія хвалююць насельніцтва. А гэта і заробак, і кватэрная плата, сацыяльнае забеспячэнне, кошты на прадукты і тавары і г.д.

Чыста эканамічныя выкладкі даволі цяжка ўспрымаюцца простым рабацягам у горадзе ці вёсцы. Таму, на маю думку, у будучай перадвыбарчай праграме трэба не толькі надаць вялікую ўвагу эканамічнаму аспекту, але і падаваць яго проста і даходліва.

**Алег БЯГАНСКІ.**

**г.Маладзечна.**

## Ад и рай

Хочу поделиться своими мыслями. Я убежден, что наши “погонщики” никогда не выведут народ Беларуси на путь светлый. Во-первых, потому, что они не хотят брать прогрессивные методы управления государством, опыт передовых стран мира, таких как США, Япония, а также европейских государств. Во-вторых, нельзя жить, как в сказке, кажется, “В стране лжецов”, где правители вдалбливали своему народу, что белое — это черное, а черное — белое.

Союз Беларуси с Россией не даст ожидаемого положительного результата, так как ни один умный садовник не станет делать привой к недоброкачественному, гнилому саженцу.

Человечество можно разделить на две половины. Одна живет в благополучных странах, где у штурвала стоят честные, порядочные руководители. Другая, во главе с горе-руководителями, все ищет какой-то свой, особый путь. Как не восхищаться странами Скандинавии! У них суровые климатические условия, а народ процветает. У нас же и климат получше, и земли побольше, а к человеческой жизни не можем пробиться.

Вот он, Божий ад и рай наяву.

**Иван КАЦУБО,**
**инвалид.**

**Гомель.**

## Хацелася б спадзявацца

Немагчыма ўстрымацца і не выказаць сваё стаўленне да таго становішча, у якім апынулася Беларусь напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Існуе, на мой погляд, рэальная пагроза “перавыбрання” А.Лукашэнкі на чарговы тэрмін. Таму вельмі хацелася б на старонках нашай газеты пачытаць разважанні вядомых палітолагаў адносна таго, ці мае А.Лукашэнка маральнае права балацiравацца на чарговы тэрмін.

Відавочна, што маральнае права быць паўторна абраным прэзідэнтам краіны можа мець толькі той прэзідэнт, пры якім у першую чаргу павысіўся жыццёвы узровень народа, а не наадварот. Што ж мы бачым? Развал эканомікі краіны, палітычную ізаляцыю, рэпрэсіі супраць іншадумцаў, узурпацыю ўлады, выміранне насельніцтва і г.д. Гэта ўжо не кажучы пра адносіны яго да мовы тытульнай нацыі, дзяржаўнай гістарычнай сімволікі, да правоў чалавека... У любой цывілізаванай краіне такі прэзідэнт даўно сышоў бы ў адстаўку сумесна з урадам, але толькі не ў анамальнай зоне, імя якой — Беларусь.

Да прэзідэнцкіх выбараў засталося вельмі мала часу. Хацелася б спадзявацца, што газета будзе змяшчаць больш матэрыялаў, якія датычацца прэзідэнцкіх выбараў. Трэба, каб людзі больш ведалі пра патэнцыяльных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беларусі...

**Іосіф АЧАКОЎСКІ,**
**пенсіянер.**

**г.Узда.**

## Боль і сорам

Менавіта такія пачуцці ахопліваюць, калі думаеш аб стане сельскай гаспадаркі. Рабаўніцкая сацыяльна-эканамічная палітыка ў адносінах да сялян прынесла ўжо жудасныя вынікі. Наша гаспадарка Чырвоны Бор (раней саўгас, а зараз унітарнае прадпрыемства) — адзіная ў Жыткавіцкім раёне, дзе яшчэ рэгулярна плацяць зарплату, праўда, вельмі мізэрную. Вядома, на яе не пражывеш. Уся надзея на ўласнае падвор’е. А калі, не дай Божа, загінула кароўка ці не ўрадзіла бульба, то тады хоць памірай.

Акрамя эканомікі ёсць яшчэ адна вялікая бяда — гэта крадзёж і п’янства. За плату ў 10 тысяч рублёў нельга запатрабаваць дысцыпліны працы. Ніхто не даражыць сваім працоўным месцам. П’янства, раскраданне калгаснай маёмасці набыло буйнамаштабны характар.

Гэта хваробы сацыяльныя. Цяпер многа гавораць аб рэфармаванні сельскай гаспадаркі. Гавораць-то гавораць, а справа ні з месца. Бо чыноўнікі хочуць уладарыць і ніколі не пойдуць на сапраўднае рэфармаванне. А яно заключаецца ў рэзкай змене формы ўласнасці. У гаспадара не ўкрадзеш і не нап’ешся на рабоце. Затое ён заплаціць па-сапраўднаму, а не сімвалічна, як у калгасе.

Дзяржава павінна актыўна ўздзейнічаць на насельніцтва, а не ісці насустрач пажаданням люмпен-пралетарыята. У гэтым выратаванне беларускай нацыі. Трэба вучыцца быць на сваёй зямлі гаспадаром, а не імкнуцца ў нейчыя абдымкі ці то расійскага старэйшага брата, ці то польскага пана.

Наша ж кіраўніцтва нават саромеецца гаварыць па-беларуску, а калі і вымавіць адно слоўца, то толькі ў выпадку, калі размова ідзе аб апазіцыі. Сорамна слухаць Беларускае радыё, калі дыктар гаворыць па-беларуску, а суразмоўца па-расійску з жудасным беларускім акцэнтам.

**З павагай —**
**Мікалай КОНАН,**
**Жыткавіцкі раён.**

